*Разблытайма таямніцы!*

# Скарб думак

***Незалежнае рознабаковае выданне***

**№ 4 (13).**

СЕРАДА

**10**

САКАВІКА
2004 ГОДА


*Сакавік*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | П |
| 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | А |
| 3 | 10 | 17 | 24 | 31 | С |
| 4 | 11 | 18 | **25** | | Ч |
| 5 | 12 | 19 | 26 | | П |
| 6 | 13 | 20 | 27 | | С |
| **7** | **14** | **21** | **28** | | Н |

**Наклад 299 асобнікаў.**
*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Распаўсюджваецца* ***бясплатна.***
Рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
**E-mail:** lebiedz@tut.by.


**Наступны нумар «Скарбу Думак» выйдзе ў аўторак, 23 сакавіка.**

## *Сёння ў нумары:*

***Усіх нашых чытачоў з разнастайнымі святамі (сваімі альбо агульнымі) віншуе рэдакцыя "Скарбу Думак"! Рабіце свае справы на карысць беларускай нацыі! Будзьце ўпартымі ў дасягненні сваіх мэтаў! Здзяйснення Вашых мараў і ўсяго Вам найлепшага!***

## *Самвыдат 1987 :*

***БУРАЧОК (працяг перадруку)***

**Стар. 3**

25.03. – Дзень Волі






***Васіль Быкаў***

## Ідэя

**...Раней шмат гадоў ніякай ідэі ў народзе не было. Жыў народ, бы сьляпы, ведаў адно — рабіць зранку да ночы, з пакаленьня ў пакаленьне. Таму жыў не багата, часам трываў недарод і нэндзу. Адукаваныя людзі казалі: усё таму, што не было ідэі. Краіны-суседкі мелі ўласныя ідэі, якія дужа шанавалі, абаранялі, а ў гэтай не было нічога. Зразумела, што пра Ідэю марылі, яе чакалі, нават прагнулі, без яе пакутвалі грамадзяне краіны...**

## Сёння ў нумары:

ЗНОЎ ПАЗЬНЯК

## REC PUBLICA

Стар.4

## Творчасць

**М.Баравуля**

**АДНА Ў НАС ВЕРА!**
**(трыялет)**

Адна ў нас вера з табой – Беларусь!
І іншае, мусіць, не трэба...
(Няхай выбачае нам Неба!)
Адна у нас вера з табой – Беларусь!

Бязбожнік ці вернік, герой або трус –
Мы прагнем свабоды, як хлеба: ...
Адна у нас вера з табой – Беларусь!
І іншае, мусіць, не трэба...

*6 лістапада 1990*

**ДЗЕЦІ НОЧЫ**
**(паводле Дзм. Мережкоўскага)**

Пpаглядзелі мы ўсе вочы –
Не ідзе да нас прарок!
Мабыць ён у цемры ночы
Не знайшоў прамых дарог?..

Можа сэрца не стрывала
Нашых дзікіх душ аскал?
Можа стража затрымала
На сцяжынцы сярод скал?

Ці ляжыць ён з куляй ў сэрцы
На скрываўленай зямлі
І над ім наўзрыд смяецца
Вораг ў вобразе змяі?

І сядзім мы дзеці ночы,
У хацінах, як краты...
І баімся, каб не збочыў
Ты да нас, пpарок святы.

Дзеці цемры, дзеці смутку –
Толькі ноччу і жывём?!...
Свет убачым Твой магутны –
Ў промнях сонечных памром!?

*снежань 1990*

## Творчасць

**Давайма супрацоўнічаць!**

Кожны цывілізаваны народ ганарыцца сваёй гісторыяй, без далучэння да якой няма дарогі ў будучыню. Мы мала ведаем пра свае вытокі і карані, сваіх слаўных продкаў, іх подзвігі і пошукі шчасця для Бацькаўшчыны. Гістарычная праўда на працягу доўгага часу была закрыта, замоўчвалася, перакручвалася.

Беларусы да здабыцця Незалежнасці былі пазбаўлены магчымасці (і зараз не ва ўсіх яна ёсць) знаёміцца з лепшымі дасягненнямі творчага мыслення.

Веданне мінуўшчыны, адчуванне непарыўнай повязі часоў і падзей, памкненняў людскіх дае чалавеку трывалы грунт яго існавання на зямлі, дазваляе глядзець у будучыню.

Гісторыя – наш духоўны скарб, які мы павінны сабраць, зберагчы і перадаць нашчадкам.

Перадавайце свае матэрыялы ў гістарычны аддзел выдання "Скарб Думак"!

Міхась ЛЕБЕДЗЬ



**ПАГОНЯ**

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах —
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

Ў белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

У бязьмерную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі — гады.
Вы за кім у пагоню спяшыце?
Дзе шляхі вашы йдуць і куды?

Мо яны, Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі уздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Не усьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За Цябе яму ўмерці дазволь!..

Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

Максім Багдановіч

# Самвыдат 1987 : БУРАЧОК

*(працяг перадруку, пачатак у №№ 2-3 «Скарбу Думак» за гэты год)*

10

м1м1 сябрам1 гуртка. Агульная адукацыя па афіцый-ных каналах не дае ан1 ведаў, ан1 с1стэмы, ня мае рэг1янальнай 1 нацыянальнай - асаб1стай прывязк1. Лятучы ўн1верс1тэт - гэта нак1раваная адукацыя па канале "сьвет - нацыя - асоба". Ён дапаможа арыентавацца ў 1дэйных канцэпцыях, абзнаём1ць з аргумантам1, формам1 1 праблемам1 руху. М1ж формаў дзеяньня - рэфераты, абмеркаваньн1, угодк1.

Татальная прапаганда. На штодня 1 штохв1л1ны. Дабрынёю 1 1нтэлектам, выхаванасьцю 1 цьвердасьцю, сам1м фактам свайго 1снаваньня. Пераконваць суседа, сваяка, сябра, знаёмага ва ўласных с1лах, прывучаць думаць, вучыць пал1т. самастойнасьц1. Кожны дзень рух пав1нны нарастаць, кожны дзень да яго пав1нны далучацца новыя людз1. Дзеля шыраньня 1дэ1 адраджэньня Беларус1 1 далейшага на гэтым грунце ўсебаковага аздараўленьня грамадзтва трэба карыстацца з любой магчымасьц1, ад выпадковых вул1чных сустрэч - да прапаганды /накольк1 магчыма/ праз сродк1 мас. 1нф., л1таратуру 1 тэатар. Памятайма, што многія нават ня ведаюць пра 1снаваньне праблемы, асьлепленыя гэтым няведаньнем.

Сёньня любая беларуская творчасьць пав1нная прапагандаваць 1дэю. Увесь нацыянальны культурны комплекс. Таму трэба змагацца з тым больш шкодным наплывам бязглуздых вершаў 1 раманаў, супраць шлягераў, як1я пяюцца праз выбухное "г", супраць домраў 1 балалаек у нац. аркестрах 1 1нш., памятаючы, што ўсё гэта дыскрэдытацыя руху 1 1дэ1.

11

Мары 1 гаспадарская жоўць. Ёсьць на сьвеце так1 магутны сродак прачыстк1 мазгоў як г1пнатычная с1ла 1дэалу. Пакл1чце на дапамогу ўяўленьне 1 прыдумайце мадэль "1дэальнага грамадзтва", цудоўнай Беларус1, царства божага на зямл1. Ну што, напрыклад, лепш: п1ць увечары сырадой 1 пад л1пам1 граць дзяўчатам на гармон1ку ц1 разбаўляць у шклянцы ёд 1 думаць пра будаўн1цтва М1нскай АЭС? Найважнейшая будучыня - у марах, у фантаз1ях. А добрыя фантаз11 - магутная прапаганда. Вядома, не забываючыся сур'ёзна падумаць пра самак1раваньне прадпрыемстваў 1 свабодныя прафсаюзы, зямельную рэформу 1 стварэньне новых с/г кааператываў, рэформу адукацы1, глыб1нную, на свабй нац. глебе.

Асобны момант - выхаваньне новых аднос1наў да працы. Тут дапамагае гаспадарская жоўць - так адз1н наш п1сьменьн1к назваў пачуцьцё, якое ўзьн1кае пры бачаньн1 ўсялякай безгаспадарчасьц1 1 сьв1нства: забруджаных рэкаў, высечаных лясоў, разбураных палацаў 1 замкаў, зьн1шчанай дз1чыны 1 рыбы... З усяго гэтага развалу 1 ру1наў пры належным рупным падыходзе можна ня тольк1 сабраць нешта больш-менш зладжанае з кэмп1нгаў, белых цеплаходаў, смачнай вады, восеньскага паляваньня 1 чароўных маленьк1х музэйчыкаў, але 1 зараб1ць мора грошай.

Сёньня беларуск1х гурткоў яшчэ мала. Але прагнецца верыць, што ўжо хутка нашая зямля пачуе "Пагоню", адпяяную ў дзесятк1 1 сотн1 тысяч галасоў.

бр

Беларуская школа

Здаецца, што ан1 зараз, ан1 ў бл1жэйшай г1старычнай пэрспэктыве кардынальных зьменаў у пал1тыцы адносна Беларус1 ня будзе, а таму трэба разьл1чваць на ўменьне выжыць 1 ладз1ць з уладай. Гэтае сваё пераканаьне я не хачу нак1даць 1ншым, але крыўдна мне, што нас, беларусаў, 1 так няшмат, а мы яшчэ 1 расколатыя на групы ды групоўк1 паводле поглядаў, асаб1стых сымпатыяў 1 г.д. Сыплюцца ўзаемныя абв1навачаньн1: каго пап1каюць пас1ўнасьцю, каго - правакацыйным1 паводз1нам1. Карацей, мы ў зародку можам загуб1ць наш рух.

Пагадз1цеся: цяжка спадзявацца актыўнай грамадзка-нацыянальнай паз1цы1 ад людзей з вышэйшых прыступак кар'ернай ц1 мастацкай 1ерарх11. Вышыня пасады ў спалучэньн1 з традыцыйнаю беларускаю асьцярожнасьцю не дазваляе 1м рызыкаваць. Значыць, патрэбная такая справа, якая была б жыцьцёва важная для нацы1, 1 здолела б згуртаваць вакол сябе ўс1х, каму дарагая Беларусь. Такая справа ёсьць. Гэта - адукацыя на роднай мове.

Кал1 пачаць з сярэдняе адукацы1, дык у мэтах захаваньня непарыўнасьц1 навучаньня давядзецца зьбеларушчваць 1 перадшкольл1 1 ВНУ, потым став1ць пытаньне пра мову ў адм1н1страцы1, на прадпрыемстве... Галоўнае - дружна пачаць. Пачаць з сярэдняй школы, бо заканадаўства дае тут найбольш магчымасьцяў /патрабаваць мовы ў перадшкольл1 1 ВНУ цяжэй/. Бацькам дастаткова падаць у школу за-

13

яву з пазначэньнем мовы навучаньня дз1цяц1, а потым зьвяртацца па 1нстанцыях М1н-ва асьветы з патрабаваньнем забясьпечыць права навучыць дз1ця на роднай мове. Найлепшы вын1к дае с1туацыя, кал1 бацьк1 аднагодкаў падаюць заявы ў адну школу 1 М1н-ва асьветы па1нфармаванае, што яны ад свайго не адступяцца. У так1м разе М1н-ва 1м адмаўляць ня будзе, а, к1руючыся ф1нансавым 1нтарэсам /каб не плац1ць настаўн1ку за навучаньне 2-3 дзяцей, а поўнага камплекту/, паспрабуе набраць цэлую беларускую клясу.

Зразумела, што ўсе створаныя так1м чынам беларуск1я школы запатрабуюць сталае апек1 з боку беларускае 1нтэл1генцы1 1 моладз1. Трэба каб гэта был1 школы ня з горшых, каб у дзяцей не фармаваўся комплекс непаўнавартасьц1.

Мова ў ВНУ пав1нная ўводз1цца найперш з 1н1цыятывы сам1х студэнтаў. Так1я прапановы трэба раб1ць на прафс., камс. сходах, старанна штораз 1х матывуючы. Добра, кал1 ў ВНУ ёсьць выкладчык1, як1я валодаюць мовай 1 згодныя выкладаць свой прадмет па-беларуску. Я ўжо не кажу пра сьвяты абавязак кожнага бел. студэнта адказваць уступныя 1 сэмэстравыя экзамэны па-беларуску. Нават кал1 няма адпаведных падручн1каў 1 пратэстуе выкладчык

У 1дэале колькасьць бел. школаў пав1нна адпавядаць працэнту беларусаў у кожным насел1шчы. Нехта скажа: а што ж раб1ць, кал1 сам1 беларусы ня хочуць так1х школаў? Адкажу: па-першае, у 1х ве-

/Працяг будзе/

